


Фаля Голец і Аля Міхалевіч — першакласніцы з Вулькі Выганоўскай.

Фота Я. Чэрнякевіч.

№ 47 (1215) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 23.XI.1980 г.

# Маленькая птушачка

## ІНДЫЙСКАЯ КАЗКА

Калісьці даўным-даўно ў маленькай вёсачцы жылі-былі дзед і баба. Былі яны старыя і адзінокія. І толькі маленькая вясёлая птушачка, якая жыла ў іх у клетцы на акне, уміляла ім жыццё.

Неяк раз дзеду давялося на кароткі час пакінуць дом. Але перад тым, як рушыць у дарогу, ён загадаў бабе наглядаць за птушкай: добра карміць яе і паіць.

Баба так была занята сваімі хатнімі справамі, што зусім забылася пра птушачку. У той ужо тры дні не было ў дзюбцы нават макавай расінкі. А на акне побач з клеткай сушылася зерне. Аднойчы, пачакаўшы, калі баба выйдзе з хаты, птушачка выдзяўбла дзірачку ў клетцы, выскачыла з яе і здзяўбла ўсё зерне.

Як жа ж узлавалася баба, калі ўбачыла, што зерня няма! Яна закрычала, затупала нагамі і выгнала птушачку з хаты.

Калі дзед вярнуўся з падарожжа, баба вырашыла сказаць, што птушачка сама ўцякла з дому.

Засумаваў дзед і адразу ж пайшоў у лес шукаць сваю птушачку. Доўга-доўга блукаў ён па пушчы, пакуль, нарэшце, не спаткаў птушачку.

— Вярніся дадому, мая маленькая вясёлая птушачка, — папрасіў ён. Але птушачка паківала галавой. І дзед зразумеў, што яна не хоча. Ён накіраваўся дадому. Але не паспеў ён зрабіць і некалькі крокаў, як перад яго вачыма паявіліся два кошыкі — адзін вялікі і цяжкі, а другі — маленькі і зусім лёгкі.

— Выбірай любы з іх, — сказала птушачка.

— Дзякуй! — адказаў стары і выбраў малы і зусім лёгкі кошык. Падхапіў сваю ношу, развітаўся з птушачкай і пайшоў дадому.

Дома ён расказаў аб усім бабе. Якое ж было іх здзіўленне, калі, адчыніўшы кошык, яны ўбачылі, што ён поўны золата, срэбра і каштоўных каменняў!

Вочы ў бабы загарэліся.

— Раскажы мне, дзе хаваецца гэтая птушка. Я ўжо буду разумнейшая за цябе і вазьму вялікі кошык!

І яна пабегла ў лес. Доўга-доўга блукала яна то тут, то там, пакуль, нарэшце, у самай пушчы не сустрэлася ёй знаёмая птушачка. Убачыўшы яе, баба загаварыла:

— Мая мілая, дарагая птушачка, я цябе так доўга шукаю. Навошта ж ты пакінула нашу хату? І, калі ласка, дай мне хоць што-небудзь на памяць.

Птушачка паставіла перад ёй





два кошыкі: адзін вялікі і цяжкі, другі — маленькі і зусім лёгкі. Ні хвіліны не задумаўшыся, баба схапіла той вялікі кошык і, не падзякаваўшы нават птушачцы, пабегла дадому. Ёй не хапіла нават цярплівасці забегчы ў хату. Ужо на ганку яна адчыніла кошык і з прагнасцю ўсадзіла ў яго руку. Але — што за жах! — замест золата, срэбра і каштоўнасцей у кошыку кішэла ад змеяў і скарпіёнаў!

Л. Газарава

# Пяцёрка

Яшчэ ў мінулым тыдні настаўніца аб'явіла, што ў панядзелак будзе кантрольная па матэматыцы.

У Цімкі папсаваўся настрой, бо больш за ўсё на свеце ён не любіў матэматыкі. Лічыць, вядома, ён умеў, але вось раўнанне рашаць — гэта ў яго не выходзіла. Настаўніца казала, што Цімка проста не хоча змусіць сябе добра падумаць. Ён прабаваў пярэчыць, але настаўніцу так лёгка не пераканаеш. Яна толькі ўважліва паглядзела на Цімку.

У панядзелак настаўніца зноў прыпомніла, што сёння трэці клас будзе пісаць кантрольную работу. І калі яна раздала карткі з заданнем, настрой у Цімкі канчаткова папсаваўся.

У класе было ціха. Вучні, схіліўшыся над сшыткамі, рашалі задачкі, а настаўніца павольна хадзіла паміж радамі. Час ад часу яна паглядвала то на Цімку, то на яго сшытак, у якім не было напісана ніводнай літары. Цімка ў чарговы раз ужо перачытваў заданне і задумліва глядзеў на Сашку, свайго суседа па парце. Той левай рукой круціў чуб, а правай старанна пісаў у сшытку. А яшчэ ён смешна варушыў губамі, быццам прыгаварваў: „Рашайцеся раўнанні, простыя і складаныя...“ І Цімка бачыў, што раўнанні ў Сашкі рашаліся.

Ніколі не хацелася яшчэ Цімку так справіцца з кантрольнай, як на гэты раз. Ён узяў картку з заданнем у рукі, доўга круціў яе, нават панюхаў, але раўнанне не рашалася.

Стол настаўніцы стаяў адразу перад Цімкавай партай. На ім ляжаў класны журнал з адзнакамі, і насупраць яго прозвішча, амаль на пачатку спіска, стаяла тройка. Настаўніца чамусьці казала, што гэтая тройка на тонкіх ножках. Але як Цімка ні прыглядаўся, ніякіх ножак не заўважыў. Побач з журналам ляжалі сшыткі, алоўкі,

*(Працяг на стар. 8)*



**Т. Хадкевіч**

# КАНЕЦ РАЗЛАДУ

**Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары.**

Аднаго разу — гэта было напрадвесні, — калі зусім звечарэла, у двор, дзе гаспадарыла каманда Мішкі Доўгага, уляцеў запыханы чалавек у расхрыстаным паліто і ў кепцы, што ссунулася на патыліцу і ледзь трымалася.

Мішка Доўгі і некалькі яго сяброў стаялі паблізу руін і аб нечым паціху раіліся. За руінамі чуваць была гамана — не інакш, як там інструктаваў сваіх Мішка Кароткі. Цямнела. У вокнах і пад'ездах дамоў загарэлася электрычнасць, але прасторны двор, заценены дрэўцамі, ад гэтых агнёў асвятляўся слаба; а муры танулі ў суцэльнай цемры, выглядалі пахмурна і таямніча. Самы зручны час быў для пошукаў разведчыкаў у лабірынтах руін, да гэтага якраз і рыхтаваліся абедзве каманды.

Запыханы чалавек мятнуўся ў адзін бок, у другі, убачыў муры, прабег міма хлапчукоў і нырнуў у першы ж праход між руін.

„Чаго ён там шмыгнуў?“ — насцярожыўся Мішка. Не паспеў ён падумаць гэта, як у двор убеглі два рослыя хлопцы з чырвонымі павязкамі на рукавах. Адзін быў у цёмным паліто, другі — у клячастай куртцы, зашпіленай бліскучай маланкай. „Армоўцы? — мільганула ў галаве Мішкі. — Э-э, тут нешта не так...“

— Ці не бачылі вы, хлопчыкі, чалавека ў расхрыстаным паліто і шэрай шапцы? — спытаўся адзін з армоўцаў.

— А што за ён, той чалавек? — не вытрымаў хтосьці, каб не пацікавіцца.

— Хуліган і злодзей, — злосна сказаў армовец. — Ён толькі што ў завулку зняў з рукі ў дзяўчыны гадзіннік.

„А-а-а...“ — адначасова вырваўся ўздых здзіўлення з грудзей хлапчукоў.

Ні Мішка Доўгі, ні яго сябры не прыкмецілі, як побач апынуўся Мішка Кароткі са сваімі таварышамі. Ён пачуў размову і цікавасць надала смеласці. Расштурхаўшы локцямі сваіх і чужых, Мішка Кароткі прабраўся да армоўцаў і стаў, выцягнуўшы шыю, услухоўвацца, што яны гавораць. Ніхто з сяброў Мішкі Доўгага ды і сам ён не ўбачылі ў гэтым нічога незвычайнага, як быццам паміж дварамі і разладу не існавала. Як можна было думаць аб разладзе, калі выпала такое сур'ёзнае здарэнне!

— Дык гэты чалавек знік вунь у тым праходзе, — паказаў Мішка Доўгі на руіны. — Калі не заблудзіцца, можа неўпрыкметку прайсці на той бок, там плот і дзірка ў ім у другі двор, а са двара выхад на вуліцу... Бяжыце туды, — параіў ён армоўцам.

— А я пашукаю з гэтага боку, — нечакана сказаў Мішка Кароткі. — Васька, за мной! — паклікаў ён свайго „ад'ютанта“ і, не кажучы больш ні слова, кінуўся ў праход, куды пару хвілін назад падаўся незнаёмы чалавек.

— Пачакай, Васька! — крыкнуў Мішка Доўгі. — Я пайду, а ты заставайся тут, арганізуй пасты вакол. Можа той паспрабуе праско-

чыць праз наш двор, дык не спускайце яго з вачэй.

Як ні дзіўна было, а Васька — не менш ганарысты і задзірлівы хлапчук, чым Мішка Кароткі, — падпарадкаваўся.

—Добра, — буркнуў ён.

— Асцярожна, хлопцы, той тып небяспечны, — на хаду папярэдзіў адзін армовец. Абодва яны пабеглі ў абход руін.

Але Мішка Доўгі ўжо гэтага не чуў, ён рынуўся следам за Мішкам Кароткім.

У руінах было цёмна, хоць вока выкалі. І ціха. Адно чулася, як шасцяць-перасыпаюцца каменьчыкі пад нагамі Мішкі Кароткага



— ён моўчкі крочыў недзе наперадзе. Мішка Доўгі выняў з кішэні электрычны ліхтарык — даўні бацькаў падарунак, з якім вечарамі ніколі не расставаўся. Націснуў на кнопку, але лямпачка засвяціла цьмяна, ледзьве ліпела, толькі блытала зрок. „Як на тое, батарэйка села. Як жа я не дагледзеў!“ — папракнуў ён самога сябе і са злосцю сунуў патушаны ліхтарык у кішэню.

Стала нібыта яшчэ цямней, потым у прагаліне над галавой засінеў кавалачак неба, загадкава мільганула зорка.

Хады і выхады тут былі добра знаёмыя, Міша ведаў іх на памяць, але цяпер яны здаліся нейкімі чужымі... Іншая рэч — гульня ў вайну з камандай Мішкі Кароткага. Ідзеш вось гэтак, крадзешся, прыглядаешся і прыслухоўваешся, ці не падсцерагаюць цябе... Ну, бывае, і падпільнуе нехта, знячэўку падставіць падножку, або атрымаеш спорнага кухталя, або шапку сарвуць — нікуды яна не дзенецца, аддадуць... І сам адказваеш тым жа пры зручным выпадку... І раззлуешся часам, не без таго — усё роўна цікава.

Дык то — гульня, няхай сабе нават і ў такой вострай форме, якую яна набыла ў апошні час. А вось цяпер... Чаго добрага, высунуцца з-за абломка сцяны дужыя, учэпістыя рукі, схопяць за каўнер, і густы мужчынскі бас грымне над табой: „А-а, гэта ты за мной цікуеш?..“ Але тут жа падумалася: „Што — пабойваешся, храбрэц? Вунь Мішка Кароткі без вагання памчаўся на пошукі. У яго і ліхтарыка няма, а пабег. Што ён — смялейшы за цябе, не табе пара?.. Чакай, дзе ж ён? Мішка Доўгі прыпыніўся.

Непадалёку ўперадзе зашоргалі шпаркія крокі. „Не, гэта не Мішка“. Затым як бы нешта ўпала і цяжка заварушылася. Пачуўся прыглушаны незнаёмы, поўны злосці, голас: „Ах ты, шчанё! Я ж табе...“ І следам за ім: „О-ёй!“ Гэта, ясна было, войкнуў Мішка Кароткі.

Мішку Доўгага як ветрам узняло з месца.

— Мі-іша! — закрычаў ён. — Міша, трымайся! Бягу!...

Вобмацкам ён абмінуў востры цагляны выступ, спатыкнуўся аб

*(Працяг на стар. 7)*




## БУРАКІ — ГЭТА ЛЯКАРСТВА

Буракі вядомыя ў нас з далёкай старажытнасці. Гэта адна з найбольш вядомых і папулярных раслін на нашых землях. Іншаземцы, якія падарожнічалі па славянскіх землях у XV-XVII стагоддзях, пісалі: боршч з'яўляецца улюбёнай стравай народу, а з лісця тут вараць не менш смачную бацьвіну. Буракі і па сённяшні дзень адна з найважнейшых харчавых раслін. Але іх значэнне акрэсліваецца не толькі гэтым. Буракі маюць яшчэ лячэбныя якасці.

Азоцістае злучэнне беацін, якое ёсць у бураках, паляпшае працу пячонкі і аказвае супрацьсклератычнае дзеянне, добра ўздзейнічае на нервовую сістэму.

Фарбуючыя рэчывы буракоў узмацняюць крованосныя сасуды, зніжаюць крывяны ціск і расслабляюць спазмы.

У бураках нямала ёсць соляў кальцыю, магнію, вельмі патрэбных арганізму. Ва ўсіх коранеплодах ёсць шматлікія мікраэлементы, асабліва патрэбныя чалавеку жалеза і медзь. Таму буракі неабходныя для чалавека з анэміяй або выздараўліваючаму пасля цяжкай хваробы. Па колькасці жалеза буракі не маюць сабе роўных сярод іншых раслін (апрача часнаку). Багатыя яны таксама ёдам і марганцам.

Буракі таксама маюць у сабе шмат цынку. Мікраэлементы цынк, медзь і марганец спрыяюць росту, развіццю і размнажэнню, адыгрываюць важную ролю ў працэсе тварэння крыві. Даказана, што цынк мае здольнасць прадоўжваць дзеянне гармона інсуліна, што мае вялікае значэнне пры цукрыцы. Цынк таксама паляпшае зрок.

Сок з буракоў з мёдам або з журавінавым сокам прапануецца пры высокім крывяным ціску, а таксама як супакойваючы сродак. Прапануем часцей выкарыстоўваць у харчаванні сырыя і вараныя буракі. Для рэгулявання страўніка як расслабляючы сродак выпіваюць нашча паўшклянкі бурачанага соку або з'ядаюць звараных буракоў.

Ёсць паведамленні аб лячэнні чырвонымі буракамі злаякасных наватвораў. Упершыню аб гэтым паведаміў венгерскі медык Ферэнц. Цікава, што ў народнай медыцыне свежы бурачаны сок (па паўшклянкі 3 —4 разы ў суткі) прапануюць пры хваробах рака.

Але гэтая справа яшчэ патрабуе глыбокага даследавання.

Можна яшчэ дадаць аб супрацьзапальных і зажыўляючых якасцях буракоў, аб іх спрыяльным дзеянні пры лячэнні гнойных ран.



*(Працяг са стар. 5)*

## КАНЕЦ РАЗЛАДУ

камень, але ўтрымаўся. Потым не ўбачыў, а хутчэй адчуў на зямлі ў праходзе тузаніну і абрынуўся на тое месца, учапіўшыся абедзвюма рукамі за нечае плячо. У нос ударыў непрыемны змешаны пах гарэлкі і табакі. Чалавек уставаў. Моцны штуршок адкінуў Мішку Доўгага, аднак ён паспеў ухапіцца за нагу чалавека і той зноў упаў, прасіпеўшы: „О, чорт!..“

Мажліва, чалавек і лёгка справіўся б з хлапчукамі, раскідаў бы іх і вызваліўся, каб у гэты момант не ўспалыхнулі два яркія слупы святла ад электраліхтарыкаў і зычны голас не загадаў:

— Стой! Устаць! Падняць рукі!

Датычылася гэта, зразумела, дарослага.

„Яны, армоўцы!“ — узрадаваўся Мішка Доўгі, падымаючыся. Мішка Кароткі сядзеў, прыхінуўшыся спіной да сцяны, і заціскаў пальцамі нос, з якога прасочвалася кроў.

— Ого, дык ты яшчэ з малымі ўступаеш у бойку? — накінуўся на чалавека адзін з армоўцаў.

— Я іх не чапаў, не ведаю, як яны трапілі мне пад ногі, — апраўдваўся той, стоячы з паднятымі рукамі і апушчанай галавой. Твар у яго быў азызлы, перакошаны, не інакш, як ад спалоху. Спадылба зласліва пазіралі маленькія цёмныя вочы.

— Не пакалечыў ён цябе, малы? — спытаўся армовец у Мішкі.

— Не, толькі нос моцна прышчснуў.

— Ну, то пайшлі!.. Ідзі! — Армовец падштурхнуў затрыманага.

Насустрач, пачуўшы шум у руінах, беглі хлапчукі з двара. Хтосьці з іх асвятляў дарогу ліхтарыкам. Мішка Доўгі замахаў ім рукамі — усё ў парадку, вяртайцеся назад, не замінайце.

— Дзякуй вам, хлопцы, за падмогу, — сказаў армовец у клятчатай куртцы, калі выйшлі ў двор. — Толькі ў другі раз не кідайцеся так, не рызыкуйце. Малыя вы яшчэ для такіх спраў. — І армоўцы з затрыманым пайшлі праз вароты на вуліцу.

— Баліць табе, Міша? — клапатліва спытаўся Мішка Доўгі ў сябрука.

Ён пакорпаўся ў кішэнях і дастаў скамечаную хустачку. — На вось, прыкладзі да носа, яно лепш будзе.

Праводзілі Мішку Кароткага да дома, дзе ён жыў, усёй гурмой — і яго сябры і сябры Мішкі Доўгага.

— Я зайду заўтра праведаць цябе, — сказаў на развітанне Мішка Доўгі.

— Заходзь, — лагодна адказаў Мішка Кароткі.

**У скарачэнні**

## ПАЗНАЁМІМСЯ

* * *

БССР, 231800, г. Слонім-7, Гродзенскай вобласці, вул. Брэсцкая, 73, кв. 24. Інэса Пышко, 11 гадоў.

* * *

БССР, 231800, г. Слонім-7, Гродзенскай вобласці, вул. Брэсцкая, 65, кв. 6. Святлана Зайцава, 12 гадоў.

* * *

БССР, 231800, г. Слонім-7, Гродзенскай вобласці, вул. Брэсцкая, 77/1, кв. 20. Лена Скіруха, 12 гадоў.

*(Працяг са стар. 3)*

# ПЯЦЁРКА

кавалачак крэйды, а трошкі далей — кніжка. І Цімка не стрымаўся, каб заглянуць у яе. Справа, на раскрытай старонцы, вялікімі літарамі было напісана... яго раўнанне! Так-так! Дакладна такое ж, як на яго картцы. А пад умовай раўнання, трошкі ніжэй, рашэнне і адказ. Цімка нават вачам сваім не паверыў. Нават разгубіўся — што рабіць? Але гэта толькі ў першую хвіліну, потым, не памятаючы сябе ад радасці, ён трошкі падаўся галавой наперад, каб лепш бачыць, і ўсё старанна перапісаў у свой сшытак...

Да канца ўрокаў Цімка цешыўся, што ўдалося. Дома, ледзь пераступіўшы парог, ён усё расказаў дзядулю і быў вельмі здзіўлены, што дзядулю гэта чамусьці засмуціла.

— І чаго ты цешышся, Цімафей? Ты ж проста сам сябе падмануў. Падумай над гэтым...

На другі дзень настаўніца зачытвала адзнакі. Яна казала, што дзеці аднесліся да працы сумленна і добра справіліся з кантрольнай. На Цімку яна паглядзела неяк спецыяльна, зусім не так, як заўсёды, і сказала:

— Больш за ўсіх мяне парадаваў Ганчарэнка.

Цімка апусціў галаву і пачырванеў так моцна, што ад сораму гатовы быў скрозь зямлю праваліцца.

— Ён і раўнанне добра рашыў, і ў сшытак чысценька перапісаў, — працягвала настаўніца. — Відаць, пастараўся Ціма. Малайчына! Ён заслужыў...

Але не паспела настаўніца закончыць, як Цімка раптам ускочыў з месца і голасна, так, каб усе пачулі, выпаліў:

— Я... Я спісаў.

Клас знерухомеў. Вось дык справа!

Цімка расказаў, усё як было. А яшчэ ён паабяцаў, што абавязкова навучыцца самастойна рашаць раўнанні і перарашае ўсе задачкі, якія ёсць у падручніку.

Настаўніца слухала яго, не перабіваючы, а калі Цімка закончыў, падышла да яго і сказала:

— Гэта добра, што ў цябе хапіла адвагі прызнацца. А раўнанні ты напэўна рашаць навучышся. Сёння ж, Ціма, ты зарабіў самую лепшую пяцёрку — пяцёрку за чэснасць.

## адгадайка




**Спалучы лікі ад 1 да 24 і даведаешся, што злавіў хлопчык.**

**Адрас рэдакцыі: „Зорка“, 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.**